

малюнкі Ўл. Сутеева

Карней Чукоўскі

# Айбаліць



МОСКВА • ИЗДАТЕЛЬСТВО «ДЕТСКАЯ ЛИТЕРАТУРА» • 1972
Менск, 2008 by Ucna Hyby




*1*

Добры доктар Айбаліць!
На узгорачку сядзіць.
Да яго ідуць зьвяры
І ваверкі, і бабры,
І жучкі, і чарвячкі,
Нават шэрыя ваўкі!

Ўсе хваробы загаіць
Можа доктар Айбаліць!





*2*

Айбаліцю сказала ліса:
"Вох, мяне пакусала аса!"

Айбаліцю прагаўкаў барбос:
"Мяне курыца дзёўбнула ў нос!"

Айбаліцю пажаліўся кот:
"Памажыце, скруціла жывот!"

Раптам прыбегла зайчыха
І закрычала: "Ай-яй!
Сыночак упаў пад трамвай!
Вох, мой галубочак
Упаў пад трамвай!



Збочыў зайчык з дарожкі,
Перарэзала беднаму ножкі,
І цяпер ён ня можа скакаць ---
Лапачкі дужа баляць!

Адказаў Айбаліць: "Той бяды!
Давай-ка сыночка сюды!
Я зраблю яму новыя ножкі,
Пабяжыць твой сынок па дарожцы."

Прынесьлі да доктара зайку,
Такі ён кульгавы ды кволы,
Прышыў Айбаліць яму ножкі,
І зноўку стаў зайчык вясёлы.
А зь ім і зайчыха-мама
Узрадавалася таксама:
Адразу давай скакаць,
І таньчыць, і падпяваць.

І сьмяецца яна, і крычыць:
"Дзякуй, дзякуй табе, Айбаліць!"





3

Раптам зьнекуль прыскакаў
На кані паштар-шакал:
"Вось вам тэлеграма
Ад Гіпапатама!"

"Прыязжайце, доктар,
Ў Афрыку хутчэй,
Уратуйце, доктар,
Ад хвароб дзяцей!"

"Вох, што робіцца на сьвеце!
Захварэлі вашы дзеці?"

"Так-так-так! У іх ангіна,
Шкарлятына, халерына,
Хто кашляе, хто хрыпіць,
Кепска есьць і кепска сьпіць!

Хутка, хутка прыязжайце
Добры доктар Айбаліць!"



"Добра, добра, пабягу,
Дзеткам я дапамагу.
Толькі дзе жывуць зьвяры:
У балоце? На гары?"

"Мы жывем на Занзібары,
Ў Калахары ды Сахары,
На гары Фернанда-По,
Дзе гуляе Гіпа-по
Па шырокай Лімпапо."





*4*

І ўстаў Айбаліць, і пабег Айбаліць,
Па палёх, па лясох, па лугох ён бяжыць,
Паўтарае сабе, каб хаця не забыць:
"Лімпапо, Лімпапо, Лімпапо!"

А насустрач і вецер, і сьнег, і град.
"Гэй, Айбаліць, паварочвай назад!"
І упаў Айбаліць, паваліўся у сьнег:
"Вох, пакінулі сілы мяне!"

І адразу з-за елкі кашлатай
Выйшла пара ваўкоў зубатых:
"На карак залазь хутчэй,
Цябе павязем як шпарчэй!"

І сеў на ваўкоў Айбаліць,
Прыгаворвае, каб не забыць:
"Лімпапо, Лімпапо, Лімпапо!"







*5*

А вось перад імі мора
Агромністая прастора!
Па моры высокія хвалі ідуць,
Вось-вось Айбаліця яны праглынуць.





А што калі не даплыву,
Што калі я патану?
Зьвяроў хто тады уратуе?
Хто хворых маіх палякуе?

Тут кіт да яго плыве:
"Сядай, Айбаліць, на мяне!
Праз мора, нібы карабель,
Перавязу я цябе!"

Паплыў на кіце Айбаліць,
Прыгаворвае, каб не забыць:
"Лімпапо, Лімпапо, Лімпапо!"





Вось горны ланцуг на дарозе стаіць,
І лезе упарта наверх Айбаліць.
Да самых аблокаў, на самую строму,
Змагаючы слабасьць і моцную стому.



А што, калі я не дайду,
Што калі я прападу?
Зьвяроў хто тады уратуе?
Хто хворых маіх палякуе?

І тут жа з высокай скалы
Спусьціліся птушкі-арлы:
"Сядай на сьпіну хутчэй,
Цябе давязем як шпарчэй!"

Ляціць на арле Айбаліць,
Прыгаворвае, каб не забыць:
"Лімпапо, Лімпапо, Лімпапо!"





## 7

А ў Афрыцы,
А ў Афрыцы,
На чорнай Лімпапо,
Сядзіць і плача
Ў Афрыцы
Гаротны Гіпапо.

Ён ў Афрыцы, ён ў Афрыцы
Пад пальмаю сядзіць,
На мора бесьпярэстанку,
На далягляд глядзіць:
Ці не плыве па моры
Доктар Айбаліць?

Сланы і насарогі
Бурчаць каля дарогі,
"Што ж Айбаліць ня едзе?
Мо заблудзіўся недзе?"







А побач бегемоцікі ---
Скруціла ім жывоцікі.
Гаротным бегемоцікам
Жывоцікі баляць.

А вось страусяняты
Пішчаць, як мышаняты.
Шкада страусянятаў,
Маленечкіх шкада!

Адзёр і дыфтэрыт у іх,
Чырвонка і бранхіт у іх,
Ангіна і атыт у іх,
І галава баліць.

Яны ляжаць і плачуць:
"Забыўся, не іначай,
Забыўся, не іначай
На хворых Айбаліць."





А побач на пясочку
Акула і сыночкі,
Акуліны сыночкі
На сонейку ляжаць.



Баляць малечам зубкі,
Няможна боль трываць!
Дванаццатыя суткі
Зубкі баляць!

Зялёны конік жаліцца,
Што ножка не зьгінаецца.
Ня таньчыць і ня скача ён,
А горка-горка плача ён
І кліча: "Айбаліць!
Ну дзе ж ты, добры доктар,
Мне ножка так баліць!"





8

Глядзіце, глядзіце, што гэта за дзіва ---
Да джунгляў арол падлятае імкліва.
На птушцы, глядзіце, сядзіць Айбаліць,
Махае рукою і гучна крычыць:
"Вітаю, сьпякотная Афрыка!"







А птушка над імі кружляе,
Айбаліця на бераг спускае.
Чакаюць яго бегемоцікі,
Ён мацае хворым жывоцікі,
Пасьля па чарзе
Чакалядкі дае,
І ставіць, і ставіць ім градусьнікі!



Потым бяжыць
Да малых тыгранятаў
І да гарбатых
Вярблюдзянятаў,
Частуе ўсіх гогалем,
Гогалем-могалем,
Гогалем-могалем!
Гогаля-могаля кожнаму!





Дзесяць начэй Айбаліць
Ня есьць, ня п'е і ня сьпіць,
Дзесяць начэй і дзён
Хворых лякуе ён
І ставіць, і ставіць ім градусьнікі.





9

Вось і вылекаваў іх,
Лімпапо!
Хворых вылекаваў ўсіх,
Лімпапо!
І пайшлі яны сьмяяцца,
Лімпапо!
Цераз галаву куляцца,
Лімпапо!





І акула Каракула
Правым вокам падміргнула
І рагоча, і сьмяецца
Так, што акіян трасецца.





А малыя бегемоцікі
Узяліся за жывоцікі
І сьмяюцца, заліваюцца ---
Так, што пальмы сагінаюцца.

Вось і Гіпа, вось і Попа,
Гіпа-попа, Гіпа-попа!
Вось ідзе Гіпапатам.
Ён ідзе ад Занзібара,
Проста да Кіліманджара ---
І крычыць ён, і сьпявае:
"Слава, слава Айбаліцю!
Слава добрым дактарам!"

